№ 173 (295)

Серада, 1 кастрычніка 1997 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў
у тыдзень
Выдавец — ТАА "Народная воля"
Кошт: у кіёсках і крамах — 2000 руб.,
у індывідуальных гандляроў —
свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас



**Сонца**

| | Усход | Заход |
|---|---|---|
| Віцебск | 7.01 | 18.38 |
| Магілёў | 6.59 | 18.38 |
| Гомель | 6.56 | 18.36 |
| Мінск | 7.10 | 18.48 |
| Гродна | 7.25 | 19.04 |
| Брэст | 7.25 | 19.05 |

*Маладзік 1 кастрычніка.*



## Поздравляем!



Кто из столичных журналистов не знает Ларису Кузьминичну Шабловскую! Сегодня, в день ее рождения, хочется познакомить с этой привлекательной женщиной и всех наших читателей. Она — директор Минского городского предприятия "Белсоюзпечать". Кажется, не будь Ларисы Кузьминичны — и сотни газетных киосков, расставленных в самых разных уголках огромного города, давным-давно закрыли бы свои витрины. Сколько физических и душевных сил отдала она организации системы розничной торговли периодическими изданиями!

С днем рождения, Лариса Кузьминична! "Народная воля" искренне рада будет поздравить Вас и в 100 Ваших лет! Крепитесь, будьте всегда такой, какая Вы есть!

## Літоўскім беларусам ёсць дзе вучыць сваіх дзяцей

Усё большы аўтарытэт набывае ў Літве вільнюская сярэдняя школа імя Францыска Скарыны, выкладанне ў якой вядзецца на беларускай мове. На мінулым тыдні на яе базе прайшла міжнародная канферэнцыя "Асаблівасці школ нацыянальных меншасцей у дэмакратычным грамадстве" з удзелам прадстаўнікоў Еўрасаюза. А 29 верасня тут адбыўся "круглы стол" на тэму "Этнакультура ў школе", які арганізаваў Дэпартамент нацыянальных меншасцей Літвы. У яго рабоце прынялі ўдзел прадстаўнікі большасці вільнюскіх сярэдніх навучальных устаноў, журналісты і палітыкі.

Школа імя Францыска Скарыны была створана ў 1993 годзе па ініцыятыве настаўнікаў-беларусаў. За гэты час яе педагагічнаму калектыву на чале з дырэктарам школы Галінай Сіволавай прыйшлося пераадолець нямала арганізацыйных і нават палітычных перашкод. Актыўную дапамогу ў станаўленні гэтай навучальнай установы аказала пасольства нашай рэспублікі ў Літве.

**Альгімантас БРАЗАЙЦІС.**

## Указ против людей

На одном из старейших промышленных предприятий Витебщины — чулочно-трикотажном комбинате ОАО "Ким" — в эти дни можно наблюдать ситуацию, близкую к панике: Комитет государственного контроля предъявил предприятию обвинение в злостном нарушении указа президента Беларуси о сроках проведения экспортно-импортных операций, а также операций с валютой. В данном случае имела место реализация известного тезиса сатирика: "Только у нас можно приносить пользу государству вопреки его законам". Смешного, впрочем, мало: комбинату предстоит уплатить штраф в размере 1,3 миллиарда российских рублей, 4 тысяч долларов США и более 400 тысяч немецких марок. Если штраф все-таки придется выплачивать (а в борьбу за ОАО "Ким" вступился концерн "Беллегпром"), то и так находящийся в тисках материального кризиса комбинат просто разорится. Помимо прочего, это будет означать потерю средств к существованию для многотысячного, в основном женского, коллектива.

## Не пей, Иванушка, из речки...

Единственными во всей республике горожанами, использующими в питьевых целях речную воду, остаются жители Полоцка. Стройкой века называют здесь возведение водозабора, который мог бы позволить полочанам стать цивилизованными людьми. Увы, в республиканском бюджете, из которого финансируется стройка, хронически не хватает денег. Во всяком случае, на эти цели. На завершение строительства комплекса требуется около 40 миллиардов рублей, а на весь следующий год запланировано выделить... 4 миллиарда. Задача для первоклассника: сколько лет еще полочане будут пить воду из речки?

## С мира по нитке...

Представители деловых кругов Минска, Лиепаи, а также полиграфисты Каунаса "в складчину" выпустили в свет роскошный альбом репродукций видного белорусского художника Николая Таранды, проживающего в пос.Барань, что под Оршей. Живопись и графика Николая, хорошо известные специалистам по многочисленным выставкам в Беларуси и за рубежом, станут доступнее для всех ценителей прекрасного.

**Евгений ТОМОВ.**

## Газета — чытачы

## Дзякую за падарунак!

Сёння разам з чарговым нумарам "Народнай волі" паштальёнка прынесла і каштоўную бандэроль — прыз, які я выйграў, прымаючы ўдзел у розыгрышы латарэі сярод падпісчыкаў. Я вельмі абрадаваны і ўдзячны, паколькі ў бандэролі аказаліся кніжкі, якіх, дарэчы, у маёй бібліятэцы не было.

Яны б для мяне былі яшчэ даражэйшымі, калі б хаця на адной з іх стаяў аўтограф паважанага галоўнага рэдактара.

Думаецца, для яшчэ большай папулярнасці газеты добра заказаць нейкую колькасць **маек з выявай назвы газеты,** гэта быў бы і падарунак, але не з тых, якія ляжыць на паліцы ці стаіць на пачэсным месцы ў кватэры, а які штодня носяць, і такім чынам будуць дабаўляць чытачоў для любімай газеты.

**З павагай —**

**П.БУРДЫКА.**

г.Полацк.

Ад рэдакцыі. *Вашыя пажаданні, шаноўны наш прыхільнік, рэдакцыя абавязкова рэалізуе падчас чарговага розыгрышу латарэі.*

## Стоп-кадр



*У Пінску будуецца новы храм.*

Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.

## Конфуз

## Конфликт на ровном месте,

### или О чем попытался узнать дипломат Валерий Цепкало у чиновницы ООН, отправлявшейся в Минск для деловой встречи с белорусским премьером

Элизабет Фонг занимает должность заместителя финансового директора программ развития ООН. Даже по международным меркам это чиновник достаточно высокого ранга. А для белорусских властей, которые не избалованы особым вниманием иностранцев, и тем более. Но...

На минувшей неделе госпожа Фонг обратилась в белорусское посольство в Вашингтоне с просьбой помочь в получении визы для посещения Беларуси. Цель своей поездки в Минск она не скрывала — есть необходимость проверить, как выполняются ООНовские программы в нашей республике. Однако белорусское посольство пока отказало госпоже Фонг в ее просьбе, попросив представить план мероприятий, которые она намерена провести в Минске. Чиновница была очень удивлена таким неожиданным пожеланием, поскольку ни в одном другом дипломатическом заведении ей никто не ставил подобных условий.

Словом, возник конфликт, как принято говорить, на ровном месте. Это тем более странно, учитывая, что в Вашингтоне работает, казалось бы, столь квалифицированный дипломат, как бывший первый заместитель министра иностранных дел Валерий Цепкало.

И в заключение, еще одно любопытное обстоятельство показывает подлинный вес должности госпожи Фонг. В ее программе пребывания в Минске планировалась встреча с самим премьером Сергеем Лингом.

**Владимир ГЛОД.**

## Жонка Аляксея Шыдлоўскага расказала пра галадоўку свайго мужа за кратамі

Яна выступіла перад журналістамі на прэс-канферэнцыі, якая адбылася пазаўчора ў штаб-кватэры Беларускага народнага фронту.

Спярша лідэры БНФ зачыталі заяву Цэнтральнай рады "Маладога фронту", у якой паведамлялася, што ўжо пяты тыдзень утрымліваюцца за кратамі шаснаццацігадовы Вадзім Лабковіч і васемнаццацігадовы Аляксей Шыдлоўскі. Іх перавозяць з аднаго СІЗО ў другое, не дапускаюць родных. Ёсць звесткі, што Аляксей быў моцна пабіты.

Пасля ўзяла слова жонка Аляксея Іна. Яна расказала пра вобыск у іх доме. Забралі кнігу пра сімвал "Пагоня", значкі, улёткі. Яе двойчы выклікалі на допыт, аказвалі на яе ціск. Не раз абяцалі выпусціць мужа пад распіску аб нявыездзе ды адмянялі. Ён абвінавачваецца як быццам у хуліганстве, знявазе дзяржаўнага сцяга, хаця канкрэтных доказаў у гэтым не прад'яўлена. У знак пратэсту Аляксей ужо другі раз распачаў галадоўку.

На думку лідэраў БНФ, справа носіць палітычны характар.

**Алесь ДРАБЧУК.**

## Што хаваецца за нападкамі на БНФ у перадачы расійскага тэлебачання "Совершенно секретно"

27 верасня ў перадачы расійскага тэлебачання "Совершенно секретно", у якой нямала ўвагі ўдзелена прэзідэнту Беларусі, была выказана крытыка на адрас БНФ. З гэтай нагоды лідэры Беларускага народнага фронту склікалі прэс-канферэнцыю, на якой выказалі свае меркаванні наконт кампаніі, якая перыядычна праводзіцца супраць іх арганізацыі.

Яны напомнілі, што расійскае тэлебачанне яшчэ раз растыражыравала хлусню пра бацьку Зянона Пазьняка, сцвярджаючы, нібыта ён быў фашысцкім прыслугачом, хоць даўно і добра вядома, што ён загінуў у Прусіі, набліжаючы нашу Перамогу. Што датычыць аповеду пра Лукашэнку, дык расійскае тэлебачанне чамусьці забылася напомніць яго ўсхваленне Гітлера. З перадачы вынікае, што так, ёсць у прэзідэнта Беларусі недахопы, але ён цвёрды кіраўнік, а вось БНФ — гэта нейкая нацыяналістычная фашысцкая арганізацыя. А таму нібы сам сабой напрошваецца вывад, што расіянам варта падтрымліваць прэзідэнта Беларусі.

На думку лідэра БНФ, за ўсім гэтым хаваюцца вялікі сэнс і задумы. Беларускі народны фронт настойліва выступае за незалежнасць сваёй краіны. Вось гэта і не падабаецца пэўным расійскім сілам, і яны спрабуюць скампраментаваць яго лідэраў, уцягнуць фронт у нейкую шырокую апазіцыю, каб растварыць у ёй. І ў гэтай працы аб'ядналіся як Лукашэнка, так і расійскія шавіністы. Але ўсе гэтыя дзеянні, на думку лідэраў БНФ, не спыняць рух беларусаў за свабоду і незалежнасць.

**Андрэй РУСАКОВІЧ.**

## По существу

## Почему в деревне остаются в основном лишь те, кто выпивает в год около 180 поллитровок водки?

Совсем недавно учебные заведения сельскохозяйственного профиля намерены были сократить набор студентов по основным специальностям. По той простой причине, что, как перенасыщенный раствор не принимает добавок, деревня уже не принимала новых специалистов. Их некуда было устраивать, и юные зоотехники, агрономы и инженеры оставались без работы.

Причин тут несколько. Первая — готовили специалистов, словно пирожки пекли: крупными партиями, задешево и не всегда качественно. И в ходе реформ, о которых так много говорит Минсельхозпрод, худо-бедно, но нужда в начальниках в деревне уменьшилась. И если раньше один приходился на полтора механизатора, то сейчас — на двух, а может, даже и на трех...

Ну и, что существенно, под разговоры о собственности, о возможной приватизации земли люди с образованием начали было в деревне оставаться. Потому что **возникла перспектива своими руками построить достойную жизнь тут же, в родных, скажем, Больших Чемоданах под Шкловом, не растрачивая ее по городским общагам и малосемейкам.**

Но, пардон, недолго музыка играла... Нынешним летом оказалось, что набор в сельхозвузы не только нельзя сокращать, а нужно даже увеличивать. Говорят, специалистов опять стало не хватать.

Причин, опять же, несколько. С одной стороны — разговоры о сохранении завоеваний Октября, которые наш президент ведет с таким же энтузиазмом, с каким совсем недавно, когда имел 50 гектаров земельки под Рыжковичами, он отстаивал частную собственность и клеймил тот самый Октябрь... Так вот, под эти разговоры трудно надеяться на достойную жизнь в деревне. Давайте вспомним: основными "завоеваниями Октября" для послереволюционного крестьянства стали, во-первых, восстановление крепостного права — мы ведь не забыли еще, что в деревне до начала семидесятых не полагалось даже паспортов. Проще говоря, **крестьянин был не вполне гражданином, не вполне человеком!**

Во-вторых, постоянный, перманентный дефицит продуктов все советские годы! Многие сейчас помнят только дешевую колбасу, не желая вспоминать, как из-за нее дрались в очередях. Словно истосковавшаяся по мужской ласке, умеющая помнить в основном пардон, низом живота жена, прощая забулдыгу-мужа, не хочет вспоминать издевательства и побои...

И в-третьих, полунищенское существование, в основном за счет "соток".

Все это вместе взятое не стимулирует желания остаться. В особенности издевательская зарплата.

Рабочий промышленности в нашей "мощной" державе с "небывалыми темпами" эмиссионного роста зарабатывает сегодня около 2 миллионов "зайчиков". А крестьянин — вполовину меньше. Это там, где сводят концы с концами. А в большинстве хозяйств, чья стоимость, по подсчетам специалистов Минсельхозпрода, составляет лишь четверть от суммы долгов, не получают и этого. В первую очередь потому, что закупочные цены не покрывают затрат на производство. И не будут покрывать. Поскольку недавно, чтобы прекратить "ценовой беспредел", президент велел установить предельные отпускные цены. Это значит, что продать мясо с выгодой для себя производитель не сможет и будет разоряться еще более высокими темпами. То есть те в деревне, кто живет плохо, будут жить еще хуже.

Зато розничные цены останутся стоять, и городской "электорат" может уверенно славить "батьку". До той поры, когда разорение производителя приведет к значительному снижению производства и цены ласточкой взлетят сами. Если сейчас они близки к российским, то тогда уверенно перекроют их. При зарплате, которая ниже российской в "разы".

Словом, доходы в деревне нищенские.

Постановление о повышении "минималки" деревни практически не коснулось, поскольку там нет источников финансирования на эти цели.

И вот специалисты уходят — куда придется!

Известно ли вам, читатель, что налоговые и таможенные службы, милиция укомплектованы в большинстве за счет молодых, образованных, энергичных агрономов и зоотехников? Которые зарабатывают там в три раза больше, чем в родных Больших Чемоданах под Шкловом.

За их же счет комплектуются многочисленные контрольные службы. Но контролировать можно того, кто работает и процветает. Того, кто разоряется, как наше сельское хозяйство, контролировать смысла не имеет.

Но трагедия в другом: происходит, как и в начале 70-х, когда крестьяне получили, наконец, паспорта, **исход лучших людей из деревни!** Деревня остается без будущего! Потому что все энергичные, молодые, чего-то в жизни хотящие, генетически получившие в наследство задатки лидерства, предприимчивости... Эти люди уходят!

А остаются те, кто ни к чему особенно не стремится. Кто выпивает, согласно статистике, около 180 поллитровок водки в год — как на мужчину, так и на женщину, рожая при этом совсем не гениальных детей. Которых можно потом сотнями, на льготных условиях, отправлять на подготовительные отделения сельхозвузов и выращивать плохоньких специалистов.

...И были дожинки на Гродненщине, и руководители государства говорили речи и раздавали "слонов". Получалось красиво — крупным планом во весь экран лицо опьяневшего от счастья счастливчика-механизатора, получающего ключи от автомобиля...

Правда, в общем выходила примерно 1/6 автомобиля на каждый из 120 районов.

И никто не хотел вспоминать, что при нищенской зарплате за тяжелую работу эта 1/6 легкового автомобиля на район, в каждом из которых около 1000 механизаторов, выглядит издевательством. И что при нормальной экономике человек, работающий на земле, может без всяких подачек купить не один автомобиль. Чему пример — немецкий фермер, ездящий, по преимуществу, на "Мерседесах".

Да и наши собственные фермеры, демонстрирующие на своих клочках земли чудеса изворотливости.

А что касается дожинок... Да, дожинаем. То, что было посеяно и даже толком не успело вырасти. Только вот что будем делать потом?

**Алесь БУСЛАЕВ.**

## Клопат пра будаўніцтва жылля ўсё больш перакладваецца на плечы грамадзян. Але ці "па кішэні" гэта рабочаму і калгасніку?

Афіцыйная прапаганда шмат гаворыць аб поспехах. У якасці прыкладу часта прыводзяцца лічбы аб дасягненнях у будаўніцтве жылля. Так, паведамляецца, што ў студзені—жніўні ўведзена ў эксплуатацыю дамоў на 33,3 працэнта болей, чым за такі ж перыяд мінулага года.

Але пры гэтым замоўчваюць аб тым, хто ж пабудаваў гэтыя дамы. Калі яшчэ некалькі гадоў назад жыллё ў асноўным узводзіла дзяржава, дык цяпер гэты клопат перакладзены на плечы насельніцтва. Вось даныя статыстыкі. Доля дзяржаўных прадпрыемстваў і арганізацый у агульным уводзе жылля за студзень—жнівень склала толькі 34%.

Хто ж будуе жыллё? Ды індывідуальныя забудоўшчыкі і члены жыллёва-будаўнічых кааператываў за свае ўласныя зберажэнні. Доля першых у агульным аб'ёме ўводу жылля — 35 працэнтаў, другіх — 17. У суме, значыць, — 52 працэнты.

Важна нагадаць, што іх доля пастаянна расце. Калі два месяцы назад яна раўнялася 47 працэнтам, дык зараз, як бачыце, ужо болей за палову. А доля дзяржаўных арганізацый за гэты час зменшылася на два працэнты. З пачатку года на будаўніцтва жылля выкарыстана 7809 мільярдаў рублёў. Большая палова іх "выкачана" з грамадзян.

А ці кожнаму рабочаму і калгасніку "па кішэні" будаўніцтва жылля пры іх мізэрных заробках? Вось пра што варта думаць і гаварыць, а не трубіць аб поспехах.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

## Прыватызацыя жылля запаволілася

За восем месяцаў гэтага года грамадзянамі рэспублікі прыватызавана 47,6 тысячы кватэр у дамах дзяржаўнага і грамадскага жылога фонду. Гэта на дзве з паловай тысячы кватэр менш, чым за аналагічны мінулагодні перыяд. Усяго ж, паводле даных Міністэрства статыстыкі і аналізу, з моманту ўвядзення ў дзеянне Закона аб прыватызацыі жыллёвага фонду ў Беларусі ва ўласнасць грамадзян перайшло крыху больш як 40 працэнтаў кватэр, якія падлягаюць прыватызацыі.

Паводле звестак Мінстата, што паступілі ў БелТА, найбольш актыўна прыватызацыя жылля адбываецца ў сталіцы краіны і Гомельскай вобласці. А вось сярод магілёўчан і гродзенцаў, аказваецца, менш за ўсё жадаючых стаць уласнікамі сваіх кватэр.

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БелТА.**

## Праект Падатковага кодэкса Беларусі будуць аналізаваць у Еўропе?

З просьбай прыняць на экспертызу праект Падатковага кодэкса нашай рэспублікі звярнуўся прэзідэнт Беларускага саюза прадпрымальнікаў Уладзімір Карагін у Еўрапейскую асацыяцыю падаткаплацельшчыкаў (ЕАП). Гэта арганізацыя сёння мае вялікі ўплыў на падатковую палітыку шэрагу развітых заходніх краін.

На думку Уладзіміра Карагіна, ЕАП можа аказаць істотную дапамогу Беларускаму саюзу падаткаплацельшчыкаў у распрацоўцы неабходных дакументаў, асабліва па пытаннях падаткаабкладання малых і сярэдніх прадпрыемстваў.

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БелТА.**

### Погода

1 и 2 октября на территории республики сохранится облачная с прояснениями погода. 1 октября в восточных районах пройдут кратковременные дожди, возможен мокрый снег. Температура ночью +1...+6, местами заморозки до -2. Днем 8—13 градусов тепла. 2 октября на большей части территории республики дожди. Температура ночью 4—9, днем 7—12 градусов тепла.

## Творчасць чытачоў

*Мікола ПРАКАПОВІЧ*

## Размова ў "варанку"

*Бацькі не спяць, чакаюць сына.*
*Дзе ж затрымаўся іх сынок?*
*А сына ўжо вязуць машынай*
*Пад назвай "чорны варанок".*

*"За што? — пытае ён у ката. —*
*За што, скажы, ты мяне біў?*
*Каму я дрэннага зрабіў?..*
*Мяне чакаюць мама, тата".*

*Міліцыянт хавае вочы.*
*А потым кажа ціха ён:*
*"Свабоды вельмі многа хочаш.*
*Не я цябе біў, а АМОН".*

*І дадае: "Ты вельмі смелы.*
*Занадта многа хочаш праў.*
*Трымаў сцяг бел-чырвона-белы*
*І беларускі гімн спяваў?*

*Ну вось і трапіў у загон.*
*Не я цябе біў, а АМОН..."*

Мінск.

## Рэзалюцыя міжнароднай канферэнцыі "СМІ Беларусі: адметнасці заканадаўства, правы і абавязкі журналістаў"

Мы, удзельнікі міжнароднай канферэнцыі "СМІ Беларусі: адметнасці заканадаўства, правы і абавязкі журналістаў", якая адбылася ў Мінску 19—20 верасня 1997 года, разгледзеўшы становішча са сродкамі масавай інфармацыі на Беларусі, падкрэсліваем, што ўсебаковая і праўдзівая інфармацыя абсалютна неабходная для нармальнага функцыянавання любога грамадства.

Ва ўмовах манапалізацыі выканаўчай уладай СМІ губляецца важная магчымасць свабоднага абмеркавання сітуацыі, адкрытага выказвання думак і поглядаў. Ніхто з беларускіх журналістаў не ставіць за мэту ўступаць у канфрантацыю з уладай, мы жадаем працаваць у межах законаў, якія цалкам адпавядаюць сусветным стандартам і тым міжнародным пагадненням, якія падпісала Рэспубліка Беларусь. Крытычнае стаўленне да некаторых дзеянняў уладных структур павінна было б нармальна ўспрымацца імі.

Аднак, на вялікі жаль, мы вымушаны канстатаваць, што:

— працягваецца кампанія праследавання, разгорнутая афіцыйнымі ўладамі супраць незалежных сродкаў масавай інфармацыі. Гэта — збіццё журналістаў пад час выканання імі сваіх службовых абавязкаў, новае палажэнне аб знаходжанні і прафесійнай дзейнасці на тэрыторыі Беларусі прадстаўніцтваў і акрэдытаваных карэспандэнтаў замежных СМІ, арышты журналістаў, гвалтоўная "канфіскацыя" апаратуры і адзятых матэрыялаў, неаднаразовыя пагрозы з вуснаў прэзідэнта Беларусі ў адрас некаторых карэспандэнтаў і т.д.;

— беларускія ўлады хочуць нас запалохаць, апусціць над Беларуссю інфармацыйную "жалезную заслону", каб свет не ведаў праўды пра тое, што адбываецца ў краіне. Гэта робіцца насуперак міжнародным пагадненням, якія падпісала Беларусь;

— так званая "справа Шарамета" з'яўляецца найбольш абуральным доказам гэтага. У звязку з чым мы звяртаемся да нашых замежных, у тым ліку расійскіх, калег з просьбай актывізаваць сваю дзейнасць, накіраваную на аб'ектыўнае, усебаковае і ўзважанае асвятленне падзей, што адбываюцца на Беларусі.

Мы звяртаемся да прэзідэнта і ўрада і патрабуем:

— спыніць праследаванне журналістаў;

— адмовіцца ад антыканстытуцыйнага праекта Закона "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі";

— прывесці нацыянальнае заканадаўства аб прэсе ў адпаведнасць з міжнароднымі стандартамі;

— стварыць эканамічныя ўмовы, якія б спрыялі свабоднаму развіццю і станаўленню сродкаў масавай інфармацыі на Беларусі.

Удзельнікі канферэнцыі звяртаюцца да сусветнай супольнасці з заклікам — усімі магчымымі законнымі сродкамі садзейнічаць абароне слова на Беларусі. Якой бы неадназначнай ні была палітычная сітуацыя ў нашай краіне, ціск на прэсу ніякім чынам не можа быць апраўданым.

Мы лічым, што ўсе факты падаўлення свабоды слова, палітычных рэпрэсій і парушэння правоў супрацоўнікаў мас-медыя павінна ведаць міжнародная супольнасць.

Мы таксама звяртаемся да нашых калег з беларускіх дзяржаўных СМІ. Разумеючы ўсю неадназначнасць і складанасць вашага становішча, хочам яшчэ раз нагадаць пра годнасць і сумленне, кодэкс журналісцкага гонару, прафесійную этыку і салідарнасць.

**Беларуская асацыяцыя журналістаў і рэдакцыя газеты "Народная воля" выказваюць глыбокае спачуванне вядомаму публіцысту Анатолю Гуляеву з прычыны смерці яго бацькі.**

## Закулисье

## Откуда ноги растут?

*Когда вокруг застарелой конфликтной ситуации наворочен ком фактов, суждений, расследований, версий и прогнозов, бывает полезно вернуться к истокам и задать себе вопрос — а откуда ноги растут? Начиналось все очень просто, утверждает автор публикации в номере "Московского комсомольца" за 18 сентября текущего года. Воспользуемся выдержкой из нее, которая, как нам кажется, в комментариях практически не нуждается. Освежим память общественности в 65-й день заключения Павла Шеремета. Пошел третий месяц, как наш коллега сидит в тюрьме...*

"Оказывается, тем самым июльским днем, когда телезаложников увезли в гродненскую кутузку, к начальнику штаба Вильнюсской пограничной полиции Симонавичюсу и оперативнику этого же отряда Цыпасу пришел в гости заместитель командира Сморгонского отряда белорусской границы. Гость показал литовцам отснятый Шереметом материал и попросил документально подтвердить факт нарушения границы. Литовцы, помня, что желание гостя — закон, сообщили обо всем своему командиру Садкаускасу и убедили его подписать желательный белорусам документик.

Документик факсом отправили в Беларусь. Вот этой факсовой бумажкой и махали белорусские хлопцы, задерживая Шеремета и его команду. Потому что в бумажке было написано и Садкаускасом подписано следующее: "...**возможно**, граница действительно была нарушена, однако выявить факт нарушения литовская сторона **не может** и просит белорусскую сторону о правовой помощи в выявлении факта нарушения".

В переводе с пограничного новояза это означало: сами мы никакого нарушения границы не наблюдали, но вам, ребята, верим, и помогите наказать супостата от нашего имени. Белорусские чекисты и расстарались — наказали".

## 66 дней в неволе



**Мы ждем тебя, Павел!**

## Настроения

## Брестчане не только за свободную экономическую зону, но и за политическую. Без всякого диктата...

В "Народной воле" за 16 сентября 1997 года были опубликованы результаты социологического опроса жителей г.Бреста, главным вопросом которого был следующий: "Находитесь ли вы в открытой оппозиции к президенту Беларуси А.Лукашенко?". К сожалению, **тот, первый, опрос мне удалось провести тогда всего лишь в течение 30 минут, и возникла опасность получить недостоверные данные.** Для уточнения этой цифры 21 сентября я вновь, но уже с коллегами вышел к брестчанам с тем же вопросом: "Вы находитесь в открытой оппозиции к президенту А.Лукашенко?". Предлагалось ответить "да" или "нет". Место было выбрано в центре г.Бреста, на пешеходной улице Советской, у кинотеатра "Беларусь".

Люди имели возможность, не торопясь, обдумать ответ. Милиция нас не трогала. Всего подписались 84 человека.

В открытой оппозиции оказались 57 человек, а в поддержку А.Лукашенко подписались 27 человек. В процентах это выглядит так: 67,8% брестчан находятся в открытой оппозиции к президенту Беларуси А.Лукашенко, 32,2% брестчан поддерживают политику президента А.Лукашенко.

Таково мнение брестчан. Никто никого не агитировал и никому не навязывал мнения. Каждый излагал мнения добровольно и без давления. Молодые люди и люди среднего возраста почти сплошь высказывались против политики А.Лукашенко. Эти люди — будущее нации.

Во время проведения опроса к плакату подошли трое десантников в камуфляжной форме и тельняшках. Внимательно прочитав текст, они молча подписались против А.Лукашенко и заявили, что знают, что делают. И так думают многие их сослуживцы.

Подошел еще один человек пожилого возраста и подписался против А.Лукашенко. При этом он заявил, что раньше был твердым сторонником президента, но после того, как "посадили в тюрьму журналиста Шеремета", он, наконец, понял, что А.Лукашенко не тот, за кого он себя выдает.

Таким образом, западный город Брест в большинстве против действий А.Лукашенко и за свободную экономическую и... политическую зону.

От имени группы, проводившей опрос, прошу "Народную волю" опубликовать "уточненные" данные социологического опроса брестчан (точнее — во второй раз подтвержденные), что политика президента А.Лукашенко жителями Беларуси воспринимается неоднозначно. И большей частью — критически.

**С уважением —**

**Геннадий САМОЙЛЕНКО, член Национального комитета Объединенной гражданской партии.**

*Брест.*

